РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 53 (7866) Заснавана ў красавіку 1931 года СЕРАДА, 12 ліпеня 2000 г. Цана 25 руб.

У РАЙВЫКАНКАМЕ

## УСЁ – ДЛЯ ЎБОРКІ ВЫРАШЧАНАГА ЎРАДЖАЮ

У мінулы панядзелак у райвыканкаме адбылася вытворчая нарада. Вёў нараду старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў. Прысутнічалі запрошаныя кіраўнікі калгасаў, прамысловых прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання, старшыні сельскіх Саветаў і загадчыкі аддзелаў райвыканкама.

Разгледжана пытанне аб мерах па падрыхтоўцы і правядзенню ўборкі ўраджаю збожжавых і іншых сельскагаспадарчых культур у 2000 годзе, а таксама сяўбы азімых пад ураджай будучага года. Падведзены вынікі работы па нарыхтоўцы кармоў з траў першага ўкосу.

Напачатку М. Р. Барысаў праінфармаваў прысутных аб тым, што 8 ліпеня на базе калгаса "Камінтэрн" Магілёўскага раёна адбыўся абласны семінар па пытаннях правядзення жніва, асенняй сяўбы. Абмеркаваны таксама паказчыкі па вытворчасці і рэалізацыі жывёлагадоўчай прадукцыі ў гаспадарках за першае паўгоддзе. Дадзены канкрэтныя ўказанні па вырашэнню гэтых важнейшых праблем.

З інфармацыяй на вытворчай нарадзе выступіў першы намеснік старшыні раённага выканаўчага камітэта, начальнік райсельгасхарчу Віталь Грышанаў. Ён адзначыў, у прыватнасці, што ў сярэднім па раёну нарыхтавана з траў першага ўкосу па 7 цэнтнераў кармавых адзінак на ўмоўную галаву жывёлы. Калгасы "Парыжская камуна" і "Дуброва" дабіліся значна большай забяспечанасці – па 10 цэнтнераў. Добрыя паказчыкі маюць і некаторыя іншыя гаспадаркі. Аднак у калгасах "Ленінскі шлях", "Новы быт", "Новае жыццё" назапашана кармоў менш, чым у сярэднім па раёну.

Вялікую шэфскую дапамогу гаспадаркам аказалі аўтапарк № 8, лясгас, ДРБУ-130, ПМК-260 і некаторыя іншыя калектывы. Даведзеныя заданні па нарыхтоўцы кармоў не выканалі трэст № 10, райбальніца, ПМК-90 і некаторыя іншыя. Выканкам дасць прынцыповую ацэнку гэтым фактам.

Далей В. Л. Грышанаў сказаў, што патрабаванні па падрыхтоўцы камбайнаў і іншых відаў уборачнай тэхнікі, а таксама да забеспячэння камбайнераў усім неабходным сёлета павышаныя. Якасць уборкі збожжавых, захаванасць ураджаю ставіцца на першы план. Камбайнерам трэба выдаць камплекты спецадзення, інвентару. Усе камбайны павінны быць старанна загерметызаваны і абсталяваны, каб не страчвалася зерне. Аналагічная падрыхтоўка аўтамабіляў, якія будуць заняты на перавозках збожжа. Акрамя таго, неабходна мець брызент для ўкрыцця груза.

Сёлета біялагічная ўраджайнасць збожжавых культур у раёне складае 18-19 цэнтнераў з гектара. Абавязак хлебаробаў – сабраць вырашчаны ўраджай без страт.

Важная роля ва ўборцы збожжавых і іншых культур адводзіцца калектывам прамысловых прадпрыемстваў, абслугоўваючых і іншых арганізацый. Шэфы абавязаны правесці ўборку кукурузы, плошчы пасеваў якой у тры разы большыя за мінулагодні. Для гэтай мэты ствараюцца спецыяльныя механізаваныя атрады, куды ўвойдзе неабходная колькасць механізатараў і тэхнікі.

Зараз, як заўважыў В. Л. Грышанаў, калгасам нішто не перашкаджае рыхтаваць глебу пад пасеў азімых. Приступілі ж да ворыва дзве-тры гаспадаркі. Задача – разгарнуць гэту работу паўсюдна, надаць асаблівае значэнне якасці асноўнай апрацоўкі зямлі.

На 12 ліпеня намечана правядзенне раённага семінара па пытаннях жніва, развіцця грамадскай жывёлагадоўлі. Будзе практычна паказана аснашчэнне і гатоўнасць да работы збожжаўборачных камбайнаў. Намячаецца абмеркаваць паказчыкі паўгоддзя па вытворчасці і рэалізацыі малака і мяса, прадуктыўнасці жывёлы.

На нарадзе заслуханы тлумачэнні амаль усіх старшынь калгасаў, якія далажылі аб стане гатоўнасці збожжаўборачнай тэхнікі. Устаноўлены сціслы тэрмін для завяршэння рамонту камбайнаў. Кіраўнікі прамысловых прадпрыемстваў, арганізацый абавязаны аказаць дзейсную дапамогу калгасам у падрыхтоўцы гэтых відаў уборачных агрэгатаў да работы.

Старшыня райвыканкама звярнуў увагу кіраўнікоў гаспадарак, служб аграпрамысловага комплексу ў сувязі з нізкай прадуктыўнасцю жывёлы. Трэба павысіць надоі малака, прывагі пагалоўя на гадоўлі і адкорме, не дапускаць зніжэння іх у параўнанні з мінулагоднімі.

Па пытаннях падрыхтоўкі і правядзення жніва, сяўбы азімых райвыканкам прыняў раней разгорнутае рашэнне.

Упраўленне сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама, кіраўнікі калгасаў, нарыхтоўчых, транспартных і абслугоўваючых сельскую гаспадарку прадпрыемстваў павінны забяспечыць арганізаванае правядзенне ўсяго комплекса работ у перыяд уборкі ўраджаю, транспарціроўкі, захоўвання, перапрацоўкі і рэалізацыі сельгаспрадукцыі. Для гэтага неабходна забяспечыць высокую гатоўнасць уборачнай тэхнікі, разгледзець на калегіі райсельгасхарчу і ў праўленнях калгасаў пытанне аб падрыхтоўцы да работы збожжавых камбайнаў, іншых уборачных машын, сушыльнага абсталявання і складаў. Правесці ў калгасах агляды гатоўнасці тэхнікі да ўборкі ўраджаю. Укамплектаваць калгасы кваліфікаванымі кадрамі механізатараў і іншых работнікаў для эфектыўнага выкарыстання камбайнаў, машынатрактарных агрэгатаў і кругласутачнай работы збожжаачышчальна-сушыльных комплексаў. Арганізаваць у кожным калгасе ў перыяд уборкі ўраджаю і сяўбы азімых культур харчаванне, бытавое і медыцынскае абслугоўванне работнікаў, якія заняты на гэтых работах, а таксама забяспечыць строгае захаванне правілаў аховы іх працы.

Неабходна разгледзець у кожным калгасе пытанне аб забяспечанасці насеннем сельскагаспадарчых культур, не ніжэй эліты і першай рэпрадукцыі, перспектыўных і раяніраваных гатункаў пад ураджай 2001 года. Арганізаваць своечасовы адвод неабходных участкаў з наступнай уборкай ураджаю з мэтай забеспячэння поўнай засыпкі насення згодна з заданнямі.

Прыняць меры па своечасоваму вызваленню плошчаў ад папярэднікаў і ворыву глебы пад азімыя. Правесці асеннюю сяўбу на высокім агратэхнічным узроўні, у аптымальныя тэрміны. Пастаўлена задача забяспечыць расшырэнне пасяўных плошчаў азімых да 10220 гектараў, з якіх на зерне – 9620 гектараў. Патрабавана, каб строга выконваўся графік падрыхтоўкі глебы пад пасеў.

Для павелічэння вытворчасці збожжа забяспечыць дыферэнцыраванае ўнясенне мінеральных угнаенняў пад азімыя ў аб'ёмах і на плошчы, якія вызначаны.

Да пачатку сяўбы азімых культур неабходна завезці ў раён 3750 кілаграмаў пратручвальнікаў і 173 кілаграмы гербіцыдаў для хімічнай праполкі азімай пшаніцы. Знайсці фінансавыя сродкі і валютаакупаемую прадукцыю для правядзення разлікаў.

З мэтай аператыўнага вырашэння бягучых пытанняў па арганізацыі і правядзенню ўборкі ўраджаю збожжавых культур створаны раённы штаб. Яго ўзначаліў старшыня райвыканкама М. Р. Барысаў.

Прынята да ведама, што аблвыканкам выдзеліць ва ўстаноўленым парадку з мэтавага бюджэтнага фонду стабілізацыі эканомікі вытворцаў сельгаспрадукцыі і харчавання грашовыя сродкі спецыялізаваным прадпрыемствам для падрыхтоўкі кормаўборачных комплексаў і збожжавых камбайнаў, іншай тэхнікі ў перыяд падрыхтоўкі да ўборкі ўраджаю і правядзення сяўбы азімых. Калгасам у ліпені 2000 года будзе праводзіцца частковая аплата кошту выкананых для іх спецыялізаванымі рамонтна-мантажнымі прадпрыемствамі "Белсельгасэнерга" і "Белаграпрамтэхніка" работ па рамонту, аднаўленню і падрыхтоўцы энергетычнага і тэхналагічнага абсталявання збожжавых комплексаў, а таксама машын і абсталявання па ачыстцы збожжа.

Дырэктар прадпрыемства "Касцюковічынафтапрадукт" Іван Міхальчанка, кіраўнікі калгасаў абавязаны забяспечыць накапленне і рэалізацыю дызельнага паліва і бензіну, маторнага масла для своечасовай уборкі ўраджаю. Прыняць меры па стварэнню 15-ці дзённага запасу гаруча-змазачных матэрыялаў.

Дырэктару ААТ "Хлебапрыёмнае прадпрыемства" Міхаілу Пацёмкіну забяспечыць падрыхтоўку матэрыяльна-тэхнічнай базы прадпрыемства да прыёмкі зерня і прад'явіць яе дзяржаўнай камісіі.

Кіраўнікі прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў абавязаны накіраваць у калгасы раёна на ўвесь перыяд уборкі ўраджаю 2000 года сваіх камбайнераў, механізатараў, электрыкаў, газаэлектразваршчыкаў і іншых спецыялістаў, якія неабходны для выканання работ па правядзенню ўборкі, перапрацоўкі і сушкі збожжа. Неабходна правесці ва ўсіх працоўных калектывах арганізатарскую і растлумачальную работу аб неабходнасці своечасовай уборкі ўраджаю.

Райвыканкам зацвердзіў рабочыя планы ўборкі збожжавых і зернебабовых культур ураджаю 2000 года і сяўбы пад ураджай 2001 года. Зацверджаны заданні прадпрыемствам і арганізацыям на пастаўку аўтамабіляў для адвозкі збожжа ад камбайнаў.

Адобраны і прыняты план дзяржаўных закупак збожжа на 2000 год у калгасах.

Створаны тэхналагічныя групы райвыканкама на перыяд уборкі ўраджаю і сяўбы азімых.

Упраўленне сельскай гаспадаркі і харчавання, аддзел унутраных спраў райвыканкама, пажарная аварыйна-выратавальная часць, кіраўнікі калгасаў павінны ўзмацніць кантроль за захаванасцю збожжаўборачнай тэхнікі і ўраджаю сельскагаспадарчых культур у час уборкі, забяспечыць умовы захавання нафтапрадуктаў, мінеральных угнаенняў, сродкаў аховы раслін і іншых рэсурсаў у калгасах і абслугоўваючых арганізацыях.

Аддзелу інфармацыі райвыканкама, рэдакцыі раённай газеты, радыёвяшчанню забяспечыць пастаяннае і шырокае асвятленне вопыту работы лепшых механізатараў калгасаў на ўборцы ўраджаю, ініцыятывы працоўных калектываў прамысловых прадпрыемстваў па аказанню шэфскай дапамогі гаспадаркам.

Кантроль за выкананнем гэтага рашэння ўскладзены на ўпраўленне сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама.

У РАЙСЕЛЬГАСХАРЧЫ

## СПЫНІЦЬ ПАДЗЕННЕ НАДОЯЎ

Калегія ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама разгледзела пытанне аб арганізацыі пашавага ўтрымання жывёлы і вытворчасці малака ў калгасах "Ленінскі шлях", імя Карла Маркса, "Смолькі". Вёў пасяджэнне першы намеснік старшыні раённага выканаўчага камітэта, начальнік райсельгасхарчу Віталь Грышанаў. Прысутнічалі кіраўнікі і спецыялісты гэтых гаспадарак. З паведамленнямі выступілі дырэктар райплемстанцыі Людміла Голікава, галоўны ветурач раёна Аляксандр Судзілоўскі, якія напярэдадні ажыццявілі праверкі.

Па стану на 6 ліпеня 2000 года ў калгасе "Ленінскі шлях" было надоена 2430 кілаграмаў малака. Надой ад каровы склаў па 7,3 кілаграма. Абодва гэтыя паказчыкі значна ніжэйшыя за мінулагоднія. Між іншым, і летась прадуктыўнасць малочнай жывёлы была невысокай.

Асноўная прычына – нездавальняючае кармленне дойных статкаў. Безумоўна, зараз хапае зялёнай травы, бо ў разгары лета. Але, каровы Валаськаўнянскай фермы кормам удосталь не забяспечаны. На пашы слабы травастой, расце дзікая трава. Пасьба вядзецца бессістэмна. Дадатковае кармленне жывёлы на ферме не арганізавана. Праўда, вада і соль на пашы ёсць.

Статак Мурынборскай фермы ходзіць у пойме ракі. Адлегласць да пашы прыкладна чатыры кіламетры. Штодзённа робяцца вялікія перагоны жывёлы, што не спрыяе атрыманню прадукцыі. Падкошванне раней скормленага ўчастка пашы не праводзіцца. Таму не ствараюцца ўмовы для пераводу сюды статка праз пэўны час.

Кіраўніку калгаса было прапанавана выдзеліць для жывёлы Валаськаўнянскай фермы лепшы ўчастак траў. Аднак, пытанне засталося нявырашаным.

Начная пасьба малочных статкаў не арганізавана. Даенне кароў двухразовае.

Маладняк на фермах у Валаськоўні і Мурын Боры ўтрымліваецца ў памяшканнях. Домікі для ўтрымання цялят на дварэ не пабудаваны. Сартыроўка і перамяшчэнне жывёлы зоаветслужбай не вяліся. Памяшканні ферм не ачышчаюцца і да пабелкі, дэзінфекцыі не рыхтуюцца.

На калегіі заслуханы тлумачэнні старшыні калгаса Мікалая Таўпекі і галоўнага заатэхніка Іны Балотнікавай. Як адзначалася, кіраўнік гаспадаркі аслабіў увагу да жывёлагадоўлі. Атрымана нізкая прывага жывёлы на гадоўлі і адкорме, у тым ліку і на комплексе. Даведзеныя заданні не выконваюцца. Колькасць пагалоўя яшчэ не адноўлена. Таварнасць малака невысокая, хаця аб'ектыўных прычын для гэтага няма.

Калегія аб'явіла вымовы старшыні і галоўнаму заатэхніку гэтага калгаса. Дадзены тыднёвы тэрмін для ўхілення адзначаных недахопаў на фермах, выраўноўвання надояў малака сёлетняга года ў параўнанні з мінулагоднімі.

У калгасе імя Карла Маркса самы вялікі ў раёне дойны статак. Але валавы надой малака ніжэйшы, чым у тых гаспадарках, дзе кароў менш. У Сялецку і Відуйцах паша выкарыстоўваецца безсістэмна. Кароў дояць два разы ў дзень. Начная пасьба не арганізавана ўсюды. Рамонт памяшканняў ферм адкладваецца на няпэўны час. Пабелка і дэзінфекцыя не праводзяцца.

Адзін з галоўных недахопаў – вялікая нагрузка даярак. Яны абслугоўваюць па 40-50 кароў і фізічна не ў стане выдаіць іх як след. Гэта праблема не вырашана.

Дзіўна, але нават зараз, не кажучы пра зімоўку, дойныя статкі паўгалодныя. Зялёны канвеер не наладжаны. У калгасе мала падсеяна шматгадовых і аднагадовых траў. Праўленне вымушана завозіць зялёную масу з вельмі аддаленых кармавых угоддзяў – Відуіцкага ўчастка – у цэнтр гаспадаркі. Гэта нерацыянальна і нявыгадна. Значна лепш было б вырошчваць культуры для падкормкі кароў на месцы.

У сувязі з дапушчанымі недахопамі на калегіі заслуханы тлумачэнні старшыні калгаса Івана Агеева і заатэхніка Святланы Лістраценка. Былі выказаны ім прэтэнзіі, заўвагі. Акрамя названых вышэй фактаў, адзначана, што ў калгасе недастатковая колькасць цялушак для ўзнаўлення статка. Забяспечанасць жывёлы кармамі на будучы стойлавы перыяд ніжэйшая, чым у сярэднім па раёну. Трэба працягаць папаўняць запасы сена і сенажу.

Члены калегіі абмежаваліся абмеркаваннем гэтага пытання. Старшыні калгаса дадзены тэрмін для таго, каб работа ў жывёлагадоўлі была палепшана і на гэтай аснове быў забяспечаны прырост вытворчасці малака, ліквідаваны мінус.

Малочная жывёла калгаса "Смолькі" ўтрымліваецца на дзвюх фермах – цэнтральнай і Разрыцінскай. Для абодвух статкаў адведзена дрэнная паша, дзе малы і рэдкі травастой. Даенне кароў двухразовае. Не выпадкова, што дзённыя надоі малака нізкія. Часам дапускаецца мінус, як гэта было, калі сапсавалася даільная ўстаноўка.

Не выконваюцца патрабаванні заатэхнічнай службай на чале з галоўным заатэхнікам калгаса па ўзнаўленню статка. Цялушак для злучкі не хапае. Цяляты пасуцца з двухмесячнага ўзросту. Аднак, усё ж, не ўдзяляецца дастатковая ўвага кармленню і ўтрыманню маладняка. Адгон і канцэнтраты цялятам не выдаюцца. Камбікорму трэба нямнога, ды яго не купілі. Нярэдкія выпадкі паморку жывёлы. Справа ўскладняецца тым, што ў гаспадарцы няма ветэрынарнага ўрача.

Неарганізаванасць і безгаспадарчасць прывялі да таго, што цяляты даюць усяго па 220 грамаў сярэднясутачнай прывагі. Па гэтай прычыне расцягваецца перыяд гадоўлі маладняку, у чым гаспадарка не зацікаўлена.

На калегіі былі прыведзены і іншыя негатыўныя прыклады. Даючы тлумачэнні калегіі, старшыня калгаса Уладзімір Барысенка і галоўны заатэхнік Валянціна Машкіна назвалі асноўныя меры, якія імі будуць прыняты па выпраўленню становішча. Ім аб'яўлены заўвагі, прапанавана карэнным чынам змяніць адносіны да вядучай галіны і дабіцца павышэння яе эфектыўнасці.

## ПА СЛЯДАХ ПІСЬМА

# ВЫБІВАННЕ – НЕ ТОЙ МЕТАД

Калгасніца калгаса "Новае жыццё" Ганна Скічко ў сваім пісьме на імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь паскардзілася на дрэннае матэрыяльнае становішча сваёй сям'і і папрасіла дапамогі. Прычым, вінаватымі ў тым, што ўсё так склалася, аўтар ліста, як ні дзіўна, лічыць кіраўнікоў гаспадаркі і раёна. Маўляў, на іх трэба і ўздзейнічаць.

Скарга была даслана Адміністрацыяй кіраўніка дзяржавы ў райвыканкам на рэагаванне і для прыняцця мер. Зразумела, яна не пакінута без увагі. Праведзена праверка на месцы. Скаржніцы дадзены адпаведны пісьмовы адказ.

Можна было б і не ўспамінаць пра гэты, на першы погляд, прыватны выпадак. Аднак, ёсць абставіны, якія прымушаюць пракаменціраваць факты. Дарэчы, яны не адзінкавыя ў раёне і маюць грамадскае значэнне. Таму важна расставіць усё на свае месцы. Тым больш, што пісьмы з гэтага калгаса ў вышэйшыя інстанцыі працягваюць ісці. Ганна Іванаўна Скічко паслала другое пісьмо Прэзідэнту, ужо ад імя ўсіх калгаснікаў гаспадаркі. Расказваецца ў ім аб адных і тых жа нягодах.

Вось некалькі радкоў з абодвух пісьмаў, напісаных між іншым, адной рукой.

"Працую ў калгасе 28 гадоў. Зараз даглядаю цялят. Дажылася да таго, што няма ні хлеба, ні бульбы – голы стол. Душа баліць, паколькі, няма чаго даць дзецям...

У дзяцей аслабленае здароўе. На адпачынак яны нікуды не ездзілі. Лякарствы няма за што купіць. Апошні раз зарплату атрымалі чатыры месяцы таму назад. Куды толькі не звярталіся мы: у Касцюковічы, Магілёў, Мінск – адказ адзін, грошай няма.

А мы ж перасяленцы. Як гэта так, каб у наш час ды не было сродкаў на хлеб?"

Чытаеш гэтыя радкі і, безумоўна, спачуваеш маці шматдзетнай сям'і. Вельмі дрэнна, што ў калгасе далёка не рэгулярна выдаецца зарплата. Але ж сёння нават там, дзе заробак атрымліваюць своечасова, не кожны можа дазволіць сабе набыць самае неабходнае. Гэта праяўленне агульнага крызісу эканомікі. Наступствы такой катастрофы, як распад былой вялікай і магутнай краіны.

І ўсё ж, будзем шчырымі. У пісьмах фарбы крыху згушчаныя. Сям'я Ганны Іванаўны і Мікалая Еўдакімавіча Скічко не абдзелена ўвагай дзяржавы. Ёй было ў свой час выдзелена новае жыллё. Дзеці атрымліваюць пэўную грашовую дапамогу. Да таго ж і праўленне калгаса не застаецца абыякавым да лёсу вялікай сям'і, як і іншых вяскоўцаў. Па магчымасці выдаюцца заробленыя грошы, ці прадукты харчавання. Сямейны бюджэт складваецца не толькі з заробкаў гаспадыні, а і гаспадара, які працуе ў калгасе даглядчыкам жывёлы, а таксама з даходаў сядзібы, падворку. Пакрысе дзеці ў сям'і падрастаюць і пераходзяць на свой хлеб. Большасць з іх ужо жывуць самастойна.

Цяпер паставім такое пытанне: што трэба, каб у калгасе заробленае выдавалася своечасова, а зарплата была дастойнай, як і жыццё ўвогуле? Адказ ёсць толькі адзін: нарошчваць вытворчасць прадукцыі на кожным рабочым месцы, у гаспадарцы ў цэлым.

А як тут абстаяць справы? Мінулы, 1999 год вядомы сваёй неўраджайнасцю. Недабор збожжа, кармоў усюды прывёў да зніжэння вытворчых і эканамічных паказчыкаў. Па калгасу "удар" быў больш балючым, бо ўраджайнасць збожжавых летась аказалася горшай, чым у іншых гаспадарках. Ды і кармоў назапасілі на зімоўку вельмі недастаткова. Давялося збыць партыю жывёлы, каб завезці сянаж і выратаваць астатняе пагалоўе.

Канчатковыя вынікі гаспадарання сведчаць аб яго ўзроўні. Так, у мінулым годзе было сабрана ўсяго 639 тон збожжа, атрымана 117,3 тоны ялавічыны і каля 21 тоны свініны. Пагалоўе жывёлы, асабліва свіней, скарацілася, і цяпер яго трэба аднаўляць.

Карацей, за 1999 год калгас вытварыў прадукцыі на суму 57878 тысяч рублёў, рэалізаваў яе на 50,3 мільёна. Налічана і выдадзена калгаснікам зарплаты амаль 30 мільёнаў рублёў, або больш палавіны выручанай за прадукцыю сумы. Тут ужо ніяк не западозрыш праўленне ва ўшчамленні інтарэсаў працаўнікоў калгаса.

Іншая справа, што грашовы даход калгаса недастатковы для таго, каб павышаць і рэгулярна выдаваць не толькі зарплату калгаснікам, а і пакрываць самыя неабходныя расходы. Свядома ж ніхто гэтыя фінансавыя аперацыі не тармозіць.

Для прыкладу: летась затрачана на набыццё насення 6,6 мільёна рублёў, кармоў – 27,1, нафтапрадуктаў – 3,3, запчастак – 2,5. Аплата паслуг арганізацый, аказаных калгасу, склала 9,9 мільёна, электраэнергіі – 1,7. А ўсяго зрасходавана 97,9 мільёна рублёў.

Як бачна, гаспадарка не змагла звесці канцы з канцамі. Атрыманага даходу хапіла толькі напалавіну для аплаты расходаў. Аднак калгас існуе, і тут няма нічога дзіўнага. Яму аказана значная матэрыяльная падтрымка з боку дзяржавы. За мінулы год з рэспубліканскага бюджэту было выдзелена 11800,3 тысячы рублёў, з абласнога – 6816,1 тысячы. Гэтыя сродкі пайшлі на пагашэнне запазычанасці па зарплаце і іншых даўгоў, пакупку мінеральных угнаенняў, камбікорму, паліва, на рамонт тэхнікі і г.д. Па тарыфнаму крэдыту было атрымана 66 тон дызельнага паліва, 22 тоны бензіну на агульную суму каля трох мільёнаў рублёў.

Вялікія фінансавыя ўліванні ў эканоміку калгаса зроблены ў сёлетнім годзе. Паколькі яны працягваюцца яшчэ, не будзем прыводзіць лічбы. Аднак скажу, што за першую палавіну 2000 года кіраўніцтва раёна выдзеліла калгасу "Новае жыццё" 2,6 мільёна рублёў з раённага бюджэту. Сродкі пайшлі на набыццё гаруча-змазачных матэрыялаў, ветпрэпаратаў, пагашэнне запазычанасці перад банкам за карыстанне крэдытам.

Ёсць шмат іншых прыкладаў, якія пацвярджаюць, што калгас не знаходзіцца на бязлюдным востраве ў штармавым моры эканомікі. Раённы выканаўчы камітэт, асабіста яго старшыня Міхаіл Барысаў, пастаянна, штодзённа ўнікаюць у справы гэтай гаспадаркі, як і іншых калгасаў, прымаюць неабходныя меры. Гэта і фінансавая, і тэхнічная дапамога, клопаты пра людзей вёскі, якія працуюць на адным з самых складаных участкаў народнай гаспадаркі...

Дзеля справядлівасці скажам: перш за ўсё калектыў павінен быць заклапочаным тым, што, нягледзячы на зробленыя захады, валавая вытворчасць прадукцыі ў калгасе з году ў год падае. Зыходзячы з рэальнай сітуацыі, у 2000 годзе запланавана атрымаць 1283 тоны малака, 125 тон прывагі жывёлы, павялічыць збор зерня. На жаль, за першае паўгоддзе вытворчыя паказчыкі ў жывёлагадоўлі аказаліся ніжэйшымі, чым намячалася. Значыць, прычыны ў неарганізаванасці, нярэдка – у безгаспадарчасці, парушэннях тэхналагічнай і працоўнай дысцыпліны. Праўленне калгаса, яго старшыня Аляксандр Амельчанка павінны быць больш патрабавальнымі да кадраў, строга кантраляваць, умела накіроўваць іх работу. Важна кіраўніку самому праяўляць дысцыплінаванасць у выкананні дадзеных кіраўніцтвам раёна даручэнняў...

Успамінаецца сустрэча членаў раённага выканаўчага камітэта з працаўнікамі калгаса "Новае жыццё". Размова амаль зацыклівалася на той жа праблеме – затрымцы зарплаты. Тон у зале, на пярэднім радзе, задавалі жанчыны. Усё было нацэлена на тое, каб неяк "выбіць" у раённага начальства зарплату. Прама скажам: гэта ўстарэлы метад. Яго трэба выкінуць на звалку як радавым, так і кіраўнікам. Хлеб на стале будзе тады, калі яго вырасцім.

**Валянціна КАВУНОВА,**
**намеснік старшыні райвыканкама.**

## ПРА ЛЮДЗЕЙ ХАРОШЫХ

# ПРЫЗВАННЕ

Жыццёвы шлях чалавека. Як можна вымераць яго, якімі адзінкамі вымярэння? Сухія запісы ў працоўнай кніжцы. Што могуць яны расказаць пра яе ўладальніка? Прынялі на работу, звольнены. Такія ж скупыя радкі і ў кніжцы Людмілы Аляксееўны Старыкавай. А за плячыма больш як чвэрць стагоддзя працоўнага жыцця. І толькі ў памяці, як на кінаплёнцы, "пракручваецца" пройдзены шлях, успамінаюцца шматлікія дэталі яго: і дрэнныя, і добрыя. І ўсё ж добрага з іх болей.

Калі нарадзілася мара стаць педагогам, яна ўжо не памятае. Здаецца, гэта было само сабой, бо з самага дзяцінства яе ідэалам былі настаўнікі. Мабыць таму яшчэ, што і нарадзілася ў сям'і педагогаў. І маці, і цётка працавалі на ніве асветы. Гэты шлях выбрала і сястра.

Паступіла ў Суражскае педвучылішча. Закончыла яго ў 1970 годзе. Выйшла замуж і з мужам паехалі ў далёкую Томскую вобласць. Там, у пасёлку Дружны, у дзіцячым садзе і пачала Людміла свой працоўны шлях.

Перад самым нараджэннем першынца прыехала да сваіх, у Касцюковічы. Тут і нарадзілася Віця, а затым і засталася сям'я ў горадзе. Пасля дэкрэтнага водпуску Л. Старыкава ўладкавалася выхавальніцай у дзіцячы сад № 6. Чатыры гады працавала на гэтай пасадзе, а затым ёй прапанавалі ўзначаліць калектыў гэтай жа дзіцячай установы.

Восем гадоў кіравала Людміла Аляксееўна. Імкнулася зрабіць сад другім домам для рабят, стварыць умовы, якія б адпавядалі дамашнім, каб малышы з ахвотай ішлі ў яго. І ёй гэта ўдавалася.

У 1984 годзе адкрываўся дзіцячы сад, які ведала райсельгастэхніка. Загадчыцай яго стала Людміла Аляксееўна. Збудаваць і здаць будынак – гэта адна справа, а абсталяваць яго, зрабіць утульным і прывабным – другая. І ўсё гэта выпала рабіць загадчыцы. Былі, вядома ж, і недаробкі будаўнікоў, якія таксама трэба было ўхіляць самой. Але, як кажуць, адзін ў полі не воін. Падабрала калектыў і разам ужо стварылі неабходныя ўмовы для выхаванцаў сада.

Пятнаццаць гадоў мінула з таго часу. Колькі ўжо выхаванцаў пакінула сцены гэтага стаўшага для многіх: і рабят, і іх бацькоў, роднага дома? І да гэтага часу ўспамінаюць яны сваіх выхавацеляў і загадчыцу, якія далі ім першыя навыкі на іх жыццёвым шляху.

Дзіцячы сад № 5 хоць і невялікі і выхаванцаў у ім толькі 4 групы, але ж работа і патрабаванні такія ж, як і ў вялікіх садах. Асаблівая ўвага ўдзялялася і ўдзяляецца тут ўсебаковаму развіццю рабят, стварэнню развіваючага асяроддзя для творчых праяўленняў асобы і яе маральнага станаўлення. Шмат цікавых мерапрыемстваў праводзілася і праводзіцца. І ў гэтым нямалая заслуга загадчыцы дзетсада. У яе і метадычная работа, бо метадыста тут няма, і выхаваўчая. "А аднойчы нават поварам прыйшлося пабыць", — успамінае Людміла Аляксееўна. Так сталася, што адна з павароў была ў водпуску, а ў другой раптоўна захварэла дачка, вось Людміла Аляксееўна і замяніла яе. А каго было шукаць? А акрамя ўсяго яшчэ ж і педсаветы, бацькоўскія сходы, семінары.

Клапатлівая работа ў загадчыцы дзіцячай установы. Яна адказвае не толькі за выхаваўчы працэс у садзе, за санітарны стан, гаспадарчую частку, яна ў адказе за кожнае дзіця, за кожнага работніка. І гэта цяжкі груз.

Складана стала працаваць у апошнія гады, у перыяд эканамічнага крызісу, які крануў і дзіцячыя ўстановы. Фінансаў не выдзяляюць ні на цацкі, ні на рамонт. Спадзяванне толькі на бацькоў выхаванцаў. Ці ж гэта выхад? Вось і ходзіць загадчыца ад аднаго кіраўніка арганізацыі да другога з просьбай дапамагчы.

Л. Старыкава – добры і кіраўнік, і спецыяліст. Яна ўмела згуртавала калектыў. Ніколі за яе гады работы не было тут канфліктаў, скаргаў. Яе паважаюць і калегі па працы, і бацькі, чые дзеці наведваюць дзіцячы сад.

Прафесія педагога стала сапраўды яе прызваннем. І ў ролі выхавальніцы, і ў ролі кіраўніка, яна сапраўды была педагог, настаўнік, дарадчык, добразычлівая, яна заўсёды прыходзіла на дапамогу другім.

За добрую і плённую працу Людміла Аляксееўна была адзначана граматамі абласнога ўпраўлення і раённага аддзела адукацыі. Узнагароджаны былі і ў цэлым дзіцячы сад.

Не шкадуе Л. Старыкава, што менавіта гэты шлях быў выбраны ёй, што чвэрць стагоддзя аддала высакароднай справе – выхаванню падрастаючага пакалення. Па яе шляху пайшла і дочка Алена. Закончыла цяперашні Магілёўскі педуніверсітэт, фізіка-матэматычнае аддзяленне. Радуе і сын Віктар. Ён закончыў тэхналагічны ўніверсітэт з адзнакай, зараз паступіў у аспірантуру.



Зусім нядаўна калектыў дзіцячага сада № 5, калегі з іншых садоў праводзілі Людмілу Аляксееўну на заслужаны адпачынак. Шмат цёплых слоў было сказана ў яе адрас, былі і слёзы развітання са сваім дзецішчам, з калектывам. Але нічога не зробіш, так складзена жыццё.

**Валянціна ФРАЛЯНКОВА.**
**На здымку: Л. А. СТАРЫКАВА.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

## УРАДЖАЙ-2000

# ПРЫЁМКА ПАСЛЯ ПРЫЁМКІ

Можна сказаць, паўторная прыёмка гатоўнасці камбайнаў адбылася ў Пячарскім аддзяленні калгаса "Расія". Намеснік начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Леанід Ус разам з камбайнерамі агледзелі гатоўнасць кожнай машыны. Адчувалася, што кожны з механізатараў зацікаўлена аднёсся не толькі да праверкі гатоўнасці да выхаду ў поле свайго камбайна, а і суседа, дакладней усіх, бо гэта была свайго роду вучоба, як зменшыць страты пры ўборцы, выявіць слабыя месцы, каб папярэдзіць прастой на рамонт. А заўваг было нямала.

Рамонт Дона-1500А, напрыклад, рабілі ў майстэрні ААТ "Касцюковічкае райаграпрамтэхэнерга". Зразумела, што і прыёмка камісіі тут была. Аднак заказ № 23, як выявілася, выканан па прынцыпу: абы выгнаць камбайн за вароты, а там няхай самі ў калгасе разбіраюцца. А разбірацца ва ўмовах пячарскай майстэрні магчымасцей аніякіх. Ці пад сілу, скажам, механізатару Леаніду Пераходзьку паставіць у адну плоскасць шківы, ці ўхіліць прычыну выхаду са строю рашот? Не. Адсюль нескладана зрабіць вывад: калі спецыялісты райаграпрамтэхэнерга не ўхіляць самі свае ж недаробкі, камбайн наўрад ці будзе працаваць. А калі і будзе, то спатрэбяцца дадатковыя грошы, якіх у калгасе хранічна не хапае нават на зарплату, на набыццё пасаў, запасных частак.

У час агляду аднаго з камбайнаў намеснік начальніка райсельгасхарчу наўмысна задаў пытанне: "Якой важнай дэталі не хапае, каб зменшыць страты зерня?" Механізатар надта не задумваўся: "Фартуха, мусіць, дык яго ж і ўкралі ў майстэрні ў час рамонту".

Трэці сезон будуць убіраць збажыну браты-механізатары Мікалай і Сяргей Васілекіны. У асноўным яны давялі да ладу СК-5 "Ніва", які быў дастаўлены сюды разукамплектаваным з Шарэек. Аднак абкатаць камбайн Васілекіны не могуць з-за, на першы погляд, дробязяў. Няма пасаў, дзе-што трэба было б і з вузлоў замяніць.

Гэтае "дзе-што" турбуе і іншых механізатараў. Агранамічная служба плануе распачаць жніво 20 ліпеня, а ўшчыльняць камбайны няма чым, няма і акумулятараў. У адным з камбайнаў заўважана трэшчына ў бункеры, у другім – абы-як пастаўлены пальцы на матавіле.

— Абкатаць камбайн, — у адно слова сказалі механізатары, — спатрэбіцца 3-4 дні, а салярку яшчэ не завезлі.

Адно суцяшае. Па словах загадчыка машыннага двара Васіля Людагоўскага, людзі ёсць і яны не дадуць загінуць ураджаю, які ўжо два гады ў гаспадарцы не атрымлівалі вышэй 10 цэнтнераў з гектара.

Адразу пры ўездзе ў Шарэйкі – цэнтральную сядзібу калгаса, размешчан збожжа-сушыльны комплекс. На першы погляд укралася думка, што тут поўнае зацішша, бо з-за сеткавай агароджы, якая буйна зарасла крапівою і дзядоўнікам, тэрыторыя КЗСа не праглядвалася. На самай справе работы вяліся. Каля сушыльні завіхаліся слесары Генадзь Шунькін, браты Васіль і Ігар Піпчанкі, яшчэ некалькі чалавек.

— Будзем устанаўліваць сушылку стацыянарна, на бетанаваны падмурак, — тлумачыць галоўны аграном калгаса Васіль Малашанка. – Часу застаецца мала, а работ процьма.

З тэхналагам палёў нельга не пагадзіцца. Каб паспець падрыхтавацца да жніва, трэба ўсё рабіць у аўральным парадку. Да наладкі КЗС-25 яшчэ ніхто не прыступаў. Можа тут і не надта работы, але ж трэба аднаўляць левы барабан, падгарэлі пласціны. На вонкавы бок памяшкання трэба вынесці электрашчыт. Мясцовыя манцёры гэтага не зробяць, спатрэбіцца дапамога гарадскіх арганізацый. Асноўныя электрарухавікі стаяць, бо іх не знімалі з мінулага перапрацоўчага сезону, астатнія ў складзе. Падрыхтаваны зернесклады да апрацоўкі ядахімікатамі, але гэта зноў жа паўсправы. Да поўнай гатоўнасці яшчэ нямала часу спатрэбіцца. Будаўнікі калгаснай брыгады толькі прыступілі да рамонту даху павеці, які быў скінуты ветрам у час урагану. Трэба прымацаваць 70 лістоў шыферу.

Зернесушыльны комплекс у Шарэйках, будзем спадзявацца, запусцяць, а ў Пячарах трэба ўкласці нямалыя сродкі. Справа ў тым, што "металісты" знялі алюмініевыя правады з 6 пралётаў паміж слупамі. Пры гэтым яшчэ абрэзалі і ўводны кабель.

Падумалася, калі ўзнікне праблема праводзіць семінар па безгаспадарскіх адносінах, называем адрас – Шарэйкаўскі машынны двор. Тут нібы на выставе стаіць адзіны камбайн Дон-1500А, да якога падыходзіць слабанервоваму забараняецца. "Стэпавы карабель" толькі для выгляду пастаўлены на калодкі, на самай справе стаіць на зямлі, уся апора на патрэсканыя колы. Машына не ачышчана ад мінулагодніх рэшткаў, грохат б'е іржа. Электраправодка чыёйсці нядобрай рукой перарэзана.

Увогуле сумнае ўражанне засталося ад наведвання калгаса "Расія". Вёскі пазарасталі пустазеллем, быццам і няма тут мясцовай улады. Дрэвы электрыкі абрэзалі, а ўбіраць іх ніхто не збіраецца. Праўда, драўніна, якая прыгодна на паліва, забрана, а сучча валяецца. Пазарасталі пустазеллем пасевы кукурузы і караняплодаў. Спадзяванне на збожжавыя, якія і трэба выратоўваць надзейнай работай тэхнікі.

**Віктар БОНДАРАЎ.**

## УМОВЫ раённага спаборніцтва на перыяд уборкі ўраджаю

Разгледзеўшы прапанову прэзідыума райкама прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу, гаспадарак раёна аб умовах спаборніцтва на перыяд уборкі ўраджаю збожжавых і зернебабовых культур у 2000 годзе, раённы выканаўчы камітэт **РАШЫЎ:**

1. Галоўным у раённым спаборніцтве сярод працаўнікоў аграпрамысловага комплексу лічыць павелічэнне валавых збораў збожжа, своечасовае правядзенне ўсіх палявых работ пры добрай якасці. У спаборніцтве ўдзельнічаюць камбайнеры, вадзіцелі, механізатары ўсіх калгасаў, прадпрыемстваў і арганізацый горада.

2. Пераможцамі раённага спаборніцтва прызнаюцца: камбайнеры, вадзіцелі, механізатары, якія не дапусцілі выпадкаў вытворчага траўматызму, забяспечваючыя выкананне зменных норм выпрацоўкі з добрай якасцю і дабіўшыхся:

камбайнеры, намалаціўшыя за перыяд уборкі найбольшую колькасць тон збожжа на камбайне ДОН-1500 і іншых марках камбайнаў;

вадзіцелі аўтамабіляў, занятыя на адвозцы збожжа ад камбайнаў, перавёзшыя за перыяд уборкі найбольшую яго колькасць, незалежна ад маркі аўтамабіля;

машыністы КЗС усіх марак, ачысціўшыя і перапрацаваўшыя за перыяд уборкі найбольшую колькасць зерня;

механізатары, занятыя на ўборцы саломы: сціртаванні, звалакванні, прэсаванні, перавозцы, выканаўшыя найбольшую колькасць з добрай якасцю работ у аптымальныя тэрміны.

3. Пераможцы спаборніцтва ўзнагароджваюцца грашовымі прэміямі:

**КАМБАЙНЕРЫ:**

*1-е месца – 25 мінімальных зарплат;*

*2-е месца – 20 мінімальных зарплат;*

*3-е месца – 15 мінімальных зарплат;*

**ПАМОЧНІКІ КАМБАЙНЕРАЎ:**

*1-е месца – 15 мінімальных зарплат;*

*2-е месца – 10 мінімальных зарплат;*

*3-е месца – 7 мінімальных зарплат;*

**ВАДЗІЦЕЛІ, МЕХАНІЗАТАРЫ, МАШЫНІСТЫ КЗС УСІХ МАРАК:**

*1-е месца – 8 мінімальных зарплат;*

*2-е месца – 6 мінімальных зарплат;*

*3-е месца – 4 мінімальных зарплаты.*

4. Камбайнеры, намалаціўшыя звыш 1000 тон, прэміруюцца каляровым тэлевізарам або халадзільнікам на выбару, памочнікі камбайнераў -- грашовай прэміяй у памеры 25 мінімальных зарплат.

5. Сродкі на прэміраванне пераможцаў раённага спаборніцтва выдзяляюцца з бюджэта.

## Ствараецца прававая база для рэфармавання АПК

Праграма павышэння эфектыўнасці сельскагаспадарчай галіны распрацавана і адобрана ўрадам рэспублікі. Рашэннем Савета Міністраў створаны чатыры групы па падрыхтоўцы нарматыўна-прававой дакументацыі, што датычыць рэфармавання АПК. Паводле слоў намесніка міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Пятра Буціна, работа па стварэнню прававой базы рэфармавання галіны вядзецца комплексна, вывучаюцца і абагульняюцца айчынны і сусветны вопыт, набыты ў гэтай галіне.

**БелТА.**



Новы МТЗ-82 Юрый Малахаў з калгаса "Новае жыццё" атрымаў за старанную працу. Вось ужо сёмы год малады механізатар шчыруе на калгасных палетках. У кожную гарачую пару: сяўбу, нарыхтоўку кармоў, ён у ліку лепшых у гаспадарцы. Сёлета яго прозвішча ўпрыгожвала раённую Дошку гонару. У час нарыхтоўкі кармоў Юрый Малахаў працаваў на сваім МТЗ-82 у агрэгаце з ГВР-6. Ён зграбаў сена на плошчы амаль 600 гектараў. Высокай выпрацоўкі дабіваецца малады механізатар.

**На здымку: Юрый МАЛАХАЎ.**

# ПАКІДАЮЧЫ АБЖЫТЫ КРАЙ

### ЧАРНОБЫЛЬСКІ СЛЕД

Пры падрыхтоўцы да выдання раённай камісіяй кнігі-хронікі "Памяць" чарнобыльская тэма так ці інакш кранулася. Яшчэ б! Каля 40 працэнтаў тэрыторыі раёна засыпана радыеактыўнымі цэзіем ды стронцыем. Якраз тая частка, што некалі адносілася па адміністрацыйнаму дзяленню да Чэрыкаўскага павета. А калі зазірнем далей, у глыбіню гісторыі, то ўбачым, што менавіта у гэтым багатым на прыроду кутку, цяперашній усходній Беларусі, пасяліліся першабытныя людзі. Наш слынны зямляк, сусветна вядомы археолаг з в. Белая Дуброва Канстанцін Палікарповіч навукова абгрунтаваў сваё меркаванне. У Клеявічах (Уклеевічах) на беразе Беседзі ім адкрыты першыя палеалітычныя стаянкі. Пазней падобная стаянка даследавана іншымі археолагамі каля пасёлка Печанеж (Печанеж, паходзіць ад назвы ручая Пенежац – заўв. аўт.). Такая рэчаіснасць сівой даўніны. А ўвогуле людзі куточка прыбяседскай зямлі ўвесь гістарычны перыяд імкнуліся ісці ў нагу з часам. Тут, як і ў іншых месцах, развіваліся саматужныя рамёствы, не кажучы пра сельскую гаспадарку. У пачатку стагоддзя, да 1905-га года, нават у невялікай вёсачцы Хоцімск была наладжана вытворчасць запалак і фанеры. Тыя ж Клеявічы славіліся вырабам дахавых матэрыялаў, Саматэвічы – ганчарным промыслам, Дзяражня – вырабамі з дрэва. Карацей кажучы, што ні вёска, то свой промысел.

Неадноўчы я быў у так званай "зоне". Можа дзесятак і больш разоў у Відуйцах, Сілічах, Брацькавічах, Правідэнцы, Вялікім Бары, не беручы ўжо Саматэвічы. Душа замірае, калі бачыш, што з нейкім дакорам пазіраюць на цябе спусцелыя хаты.

Ад лёгкага павеву ветру рыпяць веснічкі ў пакінутых дварах. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС людзей выселілі адгэтуль. Многія пасёлкі і вёскі зусім спынілі сваё існаванне. Такі ж лёс напаткаў і добра адбудаваныя населеныя пункты, як Дзяражня, Вётухна. Жыхары іх ужо некалькі гадоў наведваюцца сюды не ў свае дамы, а на могілкі – памянуць сваіх продкаў. Не скарыліся "чорнай" бядзе толькі Відуйцы і Сілічы. Частка жыхароў названых вёсак ніяк не жадае стаць перасяленцамі, а некаторыя паблукалі па іншых "чыстых" мясцінах, ды і вярнуліся. Выходзіць, няма нідзе лепшай зямлі, чым свая!

Мы неяк забываемся, звыкаемся з тым, што адбываецца вакол нас. Быццам бы бясшкодныя сталі радыенукліды, ніхто не звяртае ўвагі на марадзёрства, калі цягнуць усё, што прыглянецца з дабротных будынкаў, пачынаючы з падлогі і заканчваючы дахам. Не зважаючы на радыяцыйную небяспеку, смела ходзяць у лес за дарамі прыроды жыхары не толькі бліжэйшых вёсак, а і гараджане. Паранейшаму ловяць рыбу аматары ў Печанежскім і Сілічоўскім вадаёмах, нават у Святым возеры.

Інакш успрымае такую з'яву прыезджы чалавек. Так было і з карэспандэнтам газеты "Рэспубліка" Аляксандрам Кушнерам.Трэба было зрабіць фотаздымкі для кнігі па чарнобыльскай тэматыцы, і мы паехалі ў Вётухну – былы цэнтр калгаса "Кранштат". Здзіўленню Аляксандра не было канца. Сталічны госць ніяк не мог "уцяміць", што разбіраюцца забруджаныя радыенуклідамі пабудовы, а матэрыял з іх зноў выкарыстоўваецца ў "чыстай" зоне. Што да бабулькі, якая пажадала дажываць свой век на сваёй роднай зямельцы, дачка прывезла ўнукаў. І яшчэ многа чаго з дзённяў мясцовых гаспадароў не ўспрымаў Аляксандр на трагічнай зямлі. У той жа час ён любаваўся шырокімі плёсамі Беседзі, што каля вёскі Клеявічы. Тут зрабіў здымак Канчанскага рова, які стаў вядомым пасля знаходкі ў ім біўня маманта. Прыпомніў кадры дакументальнага кінафільма "Край крынічны", знятыя тут з крутога берага Беседзі.

Пабываў на радзіме нашых двух народных – паэта і пісьменніка Аркадзя Куляшова і Івана Чыгрынава, таксама сталічны журналіст Уладзімір Дзюба. Падрыхтаваная ім радыёперадача з Саматэвіч і Вялікага Бору двойчы гучала ў эфіры рэспубліканскага радыё і мела рэзананс. Аб гэтым можна меркаваць хаця б па пісьму ў рэдакцыю жыхара г. Салігорска Яўгена Бондарава. "Не з-за таго, што я родам з вёскі Астравок, якая побач з Саматэвічамі, — піша ён. – Проста перадача кранула, бо ўспрымаю боль пацярпеўшых ад чарнобыльскай бяды як сваю". Іван Чыгрынаў пры жыцці сам сказаў за сябе: "Мне цяпер цяжка бываць у сваім Вялікім Бары. Вёскі, лічы, ужо няма. Перасялілася ад чарнобыльскай радыяцыі. Усё вакол разбураецца. Пасля вайны будавалася, а цяпер разбураецца. Хаты зеўраюць пустымі акаміцамі. І толькі знаёма люструюцца азёры"...

Штогод прыязджае на Радаўніцу ў сваё Клеявічы вядомы беларускі пісьменнік Леанід Левановіч. Вынікам гэтых паездак стала кніга "Вяртанне ў радыяцыю". Аўтар сам з адселенай вёскі, сэрцам і душою перажыў чарнобыльскую бяду. Ён ужо больш звыкла і рэальна ўспрымаў нават такі малюнак, калі ў адселенай вёсцы Мокрае тры бабулькі толькі з прымяненнем адных рыдлёвак і матык вырасцілі бульбу на сваіх пакінутых участках больш як на 30 сотках. Вярнуліся яны сюды на летні час з пабудаванага для перасяленцаў пасёлка Крапіўня. Пад жытло прыстасавалі лазню. Ваду бралі з пачышчанай самімі крыніцы.

Не абышлі чарнобыльскую тэму ў сваіх творах нашы землякі паэт Алесь Пісьмянкоў, мастак Мікалай Бяляўцаў, журналіст Віктар Галайда, фотакарэспандэнт Дзмітрый Пячкоўскі. Кожны з іх па-свойму адлюстраваў першыя гады пасля трагедыі 26 красавіка 1986 года. Рабілася нямала, каб захаваць назвы знікшых з карты раёна населеных пунктаў.

Былі свае задачы, а з імі і цяжкасці, у раённай камісіі па выданню кнігі-хронікі "Памяць". Многія ўдзельнікі вайны перасяліліся ў іншыя месцы, былі скасаваны Брацькавіцкі, Дзяражненскі і Саматэвіцкі сельскія Саветы. І ўсё ж, нягледзячы на складанасці, было вырашана не толькі захаваць для гісторыі назвы вёсак, а і паймення назваць іх жыхароў, якія загінулі ў час вайны або ўнеслі свой уклад у набліжэнне дня Перамогі. Па такой жа схеме названы перадавікі вытворчасці, знакамітыя вучоныя, дзеячы літаратуры і мастацтва і г.д.

Многае хацелі б узяць на памяць, захаваць, пакідаючы абжыты край нашы землякі. Дзе-што ў гэтым напрамку робіцца. Не апошнюю ролю адыграе і кніга-хроніка "Памяць. Касцюковіцкі раён", якая ў сёлетнім годзе выйдзе ў мінскім выдавецтве "Вышэйшая школа".

**Віктар БОНДАРАЎ.**

### РАІЦЬ СПЕЦЫЯЛІСТ

# Хворую карову не пускайце ў статак

Часта можна бачыць, як на аўтобусных прыпынках, каля шматпавярховых дамоў вясковыя жанчыны прадаюць малако. Слоікі хутка пусцеюць. І ніхто з пакупнікоў не цікавіцца якасцю гэтых малочных прадуктаў. А тым не менш трэба быць вельмі асцярожным пры набыцці малака. Справа ў тым, што ў нашым раёне інфіцыраванасць буйной рагатай жывёлы лейкозам у грамадскім статку складае 0,02 працэнта. На калгасных фермах жывёла амаль аздароўлена.

Аднак стан спраў ва ўласных гаспадарках намнога горшы. Інфіцыраванай жывёлы лейкозам трымаюць жыхары нашага раёна 0,2 працэнта. Гэта хвалюе ветэрынарную службу раёна. Бо праводзіць аздараўленне статку з уласных падворкаў вельмі складана. А тым не менш лейкоз вельмі небяспечная хвароба. Гэта хранічная інфекцыйная хвароба пухліннай прыроды, якая выклікаецца анкагенным вірусам лейкозу. Трапіўшы ў арганізм жывёлы, вірус-узбуджальнік лейкоза знаходзіцца там пажыццёва. Праўда, ён нyўстойлівы да ўздзеяння высокіх тэмператур, абясшкоджваецца пры награванні малака да 76 градусаў Цэльсія на працягу 20 секунд. А вось глыбокае замарожванне толькі кансервуе яго.

Крыніцай інфекцыі з'яўляецца хворая жывёла на ўсіх стадыях лейкознага працэсу. Асноўнымі фактарамі перадачы віруса лейкоза з'яўляецца кроў, а таксама малако і іншыя сакрэты і экскрэты, якія ўтрымліваюць лейкацыты. Каб заразіць жывёліну, дастаткова ўсяго адной кроплі крыві. Таму распаўсюджваць інфекцыю могуць насякомыя, якія смокчуць кроў (камары, мухі і г.д.). Часцей інфіцыраванне жывёлы адбываецца ў перыяд пасьбы статка.

Праблема лейкозу можа быць вырашана, калі самі гаспадары, ды і вясkoўцы-суседзі паклапоцяцца аб гэтым. У прыватнасці, гэта датычыць жыхароў вёсак Вішні, дзе інфіцыравана 10 кароў вяскоўцаў, і Вішанькі. Тут хварэюць на лейкоз чатыры каровы. Колькі разоў тлумачылі, што інфіцыраваную жывёлу нельга пасвіць на пашы разам са здаровай, бо хутка заражаюцца астатнія каровы. Гаспадары хворай жывёлы мер ніякіх не прымаюць, маўчаць і суседзі, спадзяючыся, што іх міне гэта бяда. Толькі гэта памылковае меркаванне. З такой хваробай, як лейкоз, трэба змагацца разам, каб не стаць заложнікамі яе.

Хочацца папярэдзіць і жыхароў нашага раёна, хто набывае малочныя прадукты ў прыватнікаў: патрабуйце ў іх даведкі аб абследаванні каровы на лейкоз і туберкулёз. Малако ад хворых кароў ужываць без дадатковай апрацоўкі нельга.

**Раіса СПРАЎНІКАВА,**
**дырэктар**
**райветбаклабараторыі.**

### КУДА ПОЙТИ УЧИТЬСЯ?

# *Приглашает ветеринарная академия*

О здоровье человека заботится врач, но, к сожалению, не всегда вспоминают о том, что врач ветеринарной медицины также стоит на страже здоровья людей.

Ветеринарная медицина – комплекс наук о строении организма животных, его жизнедеятельности и причинах болезней, методах их распознания, лечения и предупреждения.

Врачи ветеринарной медицины организуют мероприятия по борьбе с болезнями животных, а также болезнями, общими для человека и животных, осуществляют контроль за санитарным качеством продукции и сырья животного происхождения. Они проводят экспертизу и разрешают использовать в пищу молоко, мясо, яйца, мед, грибы и другие продукты питания.

Врачи ветеринарной медицины заняты охраной окружающей среды от всевозможных биолого-токсических загрязнений, сохранением и приумножением многообразной дикой фауны, решением вопросов рационального использования животного мира.

Важные задачи в развитии животноводства выполняют работающие в непосредственном контакте с ветеринарными врачами зооинженеры.

Витебская ордена "Знак Почета" государственная академия ветеринарной медицины (ВГАВМ) является одним из старейших высших учебных заведений Республики Беларусь и именно здесь готовят специалистов высшей квалификации: врачей ветеринарной медицины и зооинженеров.

Основными учебными подразделениями академии являются факультеты ветеринарной медицины, зооинженерный, заочного обучения, повышения квалификации, довузовской подготовки. Всего на очных факультетах обучается 2051 студент, из них 1780 – на факультете ветеринарной медицины, 271 – на зооинженерном, 680 – на заочном факультете. На факультете повышения квалификации за год проходят переподготовку 1774 человека.

При академии имеется аспирантура по ветеринарным, сельскохозяйственным и биологическим специальностям, функционируют советы по защите диссертаций на получение ученой степени доктора и кандидата наук по пяти научным специальностям.

В настоящее время в академии работает 302 преподавателя, среди них 126 кандидатов и 26 докторов наук, 97 доцентов и 17 профессоров, 7 академиков и членов-корреспондентов.

Факультет ветеринарной медицины является ведущим подразделением академии. В его состав входят 18 кафедр, 5 клиник, виварий, проблемная научно-исследовательская лаборатория, ветеринарная лечебница и мясокомбинат с учебными классами в учхозе "Подберезье", учебная база на Витебском мясокомбинате.

В учебном процессе участвуют также 10 кафедр зооинженерного факультета.

Самыми значительными на факультете являются кафедры компьютерного образования, технологии производства продуктов и механизации животноводства, кормления, частного животноводства, генетики и разведения, экономики и организации сельскохозяйственного производства.

На факультете ветеринарной медицины имеются следующие специализации: ветеринарная бактериология и вирусология, ветеринарная гинекология и биотехнология размножения животных; на зооинженерном факультете – племенное дело. На обоих факультетах имеются группы непрерывной интегрированной системы профессионального обучения (НИСПО).

Студентом академии ветеринарной медицины может стать каждый, кто победит в конкурсе знаний на экзаменах по биологии, химии и напишет сочинение по русскому (белорусскому) языку и литературе.

Выпускники академии работают во всех подразделениях сельского хозяйства: как непосредственно в хозяйствах, так и на различных руководящих должностях, в сельскохозяйственных управлениях, лабораториях, научных учреждениях, преподавателями высших и средних учебных заведений. И если спросить у работающих выпускников академии, каждый наизусть назовет ***телефонный номер 37-23-22 – это приемная комиссия и улицу Доватора, дом 7/11 в Витебске, где расположена академия.***



НАРОДНЫЯ АБРАДЫ

# Купальскае свята жартам багата

У які ўжо раз святкавала Касцюкоўшчына Купалле – бадай, адно з самых любімых свят людзей рознага ўзросту. Не стаў перашкодай і дождж, які ішоў амаль цэлы дзень. К вечару ж, на радасць усім, усталявалася надвор'е, выглянула сонейка. Узняўся настрой ва ўсіх, асабліва ў арганізатараў свята, і пачалося прыгатаванне да яго. На беразе рэчкі Жадунька, дзе звычайна праводзіцца Купалле, была збудавана сцэна, электрыкі пакланапіліся падвесці святло, падрыхтавана было і вогнішча. А побач раскінулі свае шатры-палаткі гандляры. Булкі, піражкі, цукеркі, піва і іншыя вырабы прапаноўвалі яны сабраўшымся на свята.

А пачыналася святкаванне на гэты раз незвычайна. Адкрывалася яно тэатралізаваным шэсцем усіх яго ўдзельнікаў – вядомых народных герояў: Вадзяніка, Лесуна, Русалак, Ведзьмы, Чарцей. Узначальвалі шэсце Купалінка і Купаліш – галоўныя дзеючыя асобы гэтага свята. Тут і ўдзельнікі ансамбляў "Калініца" Цэнтра культуры і Муравільскага СДК і многія іншыя.

З купальскімі песнямі рушыла яно з цэнтра горада да месца правядзення свята. Купалінка і Купаліш зазывалі людзей хутчэй збірацца на свята:

*Сёння ўсіх мы запрашаем*
*На сустрэчу з цудам*
*Пра Купалле вам раскажам*
*Нечысць перадужым.*
*Разам песні паспяваем*
*І паскачым ў танцы.*
*На вяночках паваројым,*
*Адпачнем ад працы.*

Трэба было бачыць, колькі народу сабралася на лужайцы ў гэту ноч. Прыйшлі цэлымі сем'ямі. І, думаю, не пашкадавалі, бо работнікі Цэнтра культуры пастараліся зрабіць свята цікавым, вясёлым.

Як і заўсёды, адкрылі тэатралізаванае прадстаўленне Купалінка і Купаліш, ролі якіх добра выканалі Раіса Казлова з клуба "Какос" і Сяргей Алейнікаў з Цэнтра культуры. Павесялілі народ дзед Тумаш і бабка Еўка, якія спяшаліся на свята на сваёй кабыле Лысцы. А былі гэта Святлана Казлова і Мікалай Іваноў. Колькі баек, жартаў было ў іх выступленні, нават частушкамі парадавалі яны гледачоў.

Купальскае свята – цудоўнае свята. Даўным-даўно існавала легенда, што ў гэту ноч на Купала расцвітае папараць-кветка. І той, хто яе адшукае, можа авалодаць усімі зямнымі скарбамі і будзе самы шчаслівы на свеце.

Менавіта ў гэтым накірунку і развіваліся далей падзеі. Купалінка і Купаліш пайшлі шукаць гэту кветку, а ім, вядома ж, перашкаджала нечысць: Ведзьма, Лясун, Вадзянік, да іх далучаюцца і Русалкі. У ролях гэтых герояў былі задзейнічаны і добра іх сыгралі Алена Масюк з школы мастацтваў, Ірына Лупанава з Цэнтра культуры, Наташа Касянкова, Вольга Віннікава, Кацця Недагарак і Таня Саладуха – удзельніцы клуба "Какос". "Чэрці" – Вольга Ячнева з школы мастацтваў і Алена Старавойтава з ЦДТ.

Дапамагаюць жа нашым героям пазбавіцца ад нечысці сяброўкі Купалінкі, у ролі якіх былі Іна Нячаева і дзяўчынкі з драматычнага гуртка Саша Чэпікава і Святлана Пракапенка, дзед ды баба, хлопцы (Косця Кляшчоў, Дзяніс Леаненка). Нарэшце нечысць пераможана і Купалінка з Купалішам зноў разам і хоць кветку Купаліш не знайшоў, Купалінка не сумуе. Хай цвіце яна на радасць і шчасце ўсім людзям, кажа яна і запрашае сяброваў пагадаць на вяночак. А Купалінкі запрашаюць усіх вадзіць карагоды вакол вогнішча, якое ўжо палыхала на пузе, узлятаючы ўверх тысячамі іскрынак. І малыя, і маладыя сталі ў круг, узяўшыся за рукі, і зноў над рэчкай ліліся чароўныя купальскія песні пад акампанемент баяністаў Уладзіміра Міранкова і Канстанціна Кляшчова, якія на працягу вечара



весялілі сваёй музыкай.

А затым на імправізаванай сцэне адбыўся канцэрт самадзейных артыстаў, у якім прынялі ўдзел ансамблі Муравільскага СДК, "Калініца" Цэнтра культуры, дуэт Арюткіных, Уладзімір Высоцін, Таццяна Леаненка з сынам Дзянісам і іншыя.

Потым Купалінка з Купалішам запрасілі прысутных прыняць удзел у гульнях і танцах, якія праводзілі Ведзьма з Лесуном. Жадаючых было шмат, асабліва рабят, якія таксама не спалі ў гэту ноч з дазволу бацькоў. Пераможцы заставаліся з прызамі.

Далёка за поўнач пачалася дыскатэка з удзелам вакальна-інструментальнай групы "Этыкет" Цэнтра культуры. Толькі на досвітку закончылася гэта цудоўнае свята. На развітанне Купалінка і Купаліш падзякавалі ўсім, хто дапамог зрабіць гэта свята, пажадалі прысутным шчасця, поспеху, здароўя, каб "купальскі" настрой не пакідаў цэлы год.

**Валянціна ФРАЛЯНКОВА.**

**На здымках: каля купальскага вогнішча; удзельнікі тэатралізаванага прадстаўлення; выступаюць дзед Тумаш і баба Еўка.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**



## СОВЕТУЕТ ВРАЧ

# Чтобы избежать заболевания

Гельминтозы – заболевание, вызываемое поселившимися в организме человека паразитическими червями и их личинками. Известно свыше 250 видов гельминтов, которые могут паразитировать в организме человека. К общим симптомам, встречающимся при большинстве гельминтозов, относятся: недомогание, усталость, снижение аппетита, анемия, раздражительность, аллергические проявления, боли в животе, тошнота, рвота, периодически неустойчивый стул. Иногда судороги. У детей чаще всего встречается энтеробиоз (у 33 процентов обследуемых). Наиболее пораженной группой населения являются дети в возрасте 3-6 лет.

Острицы – возбудители энтеробиоза – белые остроконечные черви длиной до 12 мм. Человек заражается ими при проглатывании яиц остриц, из которых через 3-4 недели развиваются взрослые особи. Острицы способствуют распространению кишечной инфекции, подавляют развитие поствакцинального иммунитета, отягощают течение беременности, отрицательно влияют на интеллект детей. Во время сна самки выползают из заднего прохода, где и откладывают яйцо. Этот процесс сопровождается сильным зудом.

Другими признаками данного заболевания являются: обильный жидкий стул чаще со слизью, снижение аппетита. Поэтому, если вас или вашего ребенка беспокоят вышеуказанные симптомы, необходимо обратиться к врачу. Наиболее эффективным является комплексное лечение с обязательным включением санитарно-гигиенических мероприятий.

Ребенку следует коротко остричь ногти на руках, мыть руки теплой водой с мылом, перед едой и после загрязнения. Ребенок должен спать в трусиках, их необходимо ежедневно менять, проглаживать утюгом, утром и вечером подмывать ребенка. Из медикаментозных средств используют: пирантел, вермокс, декарис, мебендазол, вермокар. Препараты назначают циклами по 2-3 дня с интервалом 10-14 дней. В детских дошкольных учреждениях регулярно проводят обследование вновь поступивших детей, проводится ежедневная влажная уборка, дезинфекция всех предметов ухода, игрушек. При выявлении больного необходимо производить обследование и лечение всех членов семьи.

Необходимо помнить, что чаще всего заражаются острицами лица, которые имеют вредную привычку брать пальцы в рот, грызть ногти, нерегулярно моют руки, не соблюдают правила личной гигиены.

**Ольга ВИТАЛЕВА, врач-педиатр райбольницы.**



## Поздравляем!

*Горячо и сердечно поздравляем с юбилеем со дня рождения дорогую, любимую мамочку, бабушку*
**ТИХОНОВУ**
**Тамару Прохоровну**

*Спасибо, родная, за то, что*
*растила,*
*За то, что взамен ничего*
*не просила,*
*И радость, и горе деля пополам,*
*Желала всегда лучшей доли*
*ты нам!*
*Живи, родная, до ста лет.*
*И знай, что мамы – лучше нет!*
*Живи, умей все пережить.*
*Старайся вовсе не тужить,*
*Здоровья крепкого навек.*
*А это значит – не болеть,*
*Ну, словом, жить и не стареть.*
*Чтоб с нами ты была сегодня,*
*завтра и всегда!*
***Дети, внуки.***

XXX

*Отдел образования райисполкома, райком профсоюза работников образования и науки горячо и сердечно поздравляют инспектора отдела образования с 55-летием со дня рождения*
**ТИХОНОВУ**
**Тамару Прохоровну**

*Желаем счастья и добра,*
*Здоровья крепкого, конечно,*
*Чтобы оно служило вечно*
*И не сдавало никогда.*

XXX

*От всего сердца поздравляю с днем рождения*
**ТИХОНОВУ**
**Тамару Прохоровну**

*Неугомонные года остановить*
*не в нашей власти,*
*Так пусть же будет так всегда:*
*Чем больше лет, тем больше*
*счастья,*
*Удачи, бодрости, тепла.*
*Пусть дальше жизнь идет спокойно,*
*Не зная горести и бед,*
*И крепким будет пусть здоровье*
*На много-много лет.*
***Волкова.***

XXX

*От всего сердца поздравляем с 55-летием со дня рождения*
**ТИХОНОВУ**
**Тамару Прохоровну**
*(г. Костюковичи)*

*В этот праздник большой*
*Мы с открытой душой*
*Поздравляем с днём рождения.*
*И хотим пожелать:*
*Бед и горя не знать,*
*Не болеть, не грустить*
*Всегда здоровой и радостной быть.*
*Пусть этот день морщинок*
*не прибавит,*
*А старые – разгладит и сотрет.*
*Здоровье укрепит, от горестей*
*избавит*
*И счастье в дом надолго принесет.*
***С любовью и уважением семьи Шныриковых, Белобород, Довгалевых.***

**АДМИНИСТРАЦИЯ КОСТЮКОВИЧСКОГО РУЭС СООБЩАЕТ.**
Для обеспечения качественного выхода абонентов сельских телефонных станций Гавриленка и Смольки на междугородную связь ***с 12 июля 2000 года будет проходить их переключение на другие направления, с заменой номеров.***
*АТС Гавриленка с 24-8хх на 24-1хх*
*АТС Смолькис 25-8хх на 26-5хх*
**СПРАВКИ ПО ТЕЛЕФОНАХ: 09, 08.**



**Калектыў райветстанцыі глыбока смуткуе з выпадку дачаснай смерці**
**ХАРЫТОНЕНКА**
**Васіля Дзмітрыевіча**
**і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Калектыў школы-інтэрната для дзяцей-сірот выказвае глыбокае спачуванне загадчыку аддзела адукацыі райвыканкама ШВЕДАВУ Віктару Міхайлавічу з выпадку смерці МАЦІ.**

**Калектыў Шарэйкаўскай сярэдняй школы выказвае глыбокае спачуванне ЗАХАРЭНКА Ірыне Аляксееўне і ШУРЛАКОВАЙ Юліі Уладзіміраўне з выпадку смерці БАЦЬКІ, СВЁКРА.**

**Калектыў Шарэйкаўскай сярэдняй школы выказвае глыбокае спачуванне загадчыку аддзела адукацыі райвыканкама ШВЕДАВУ Віктару Міхайлавічу з выпадку смерці МАЦІ.**


Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ

ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43
Індэкс газеты 64045

ТЭЛЕФОНЫ:
галоўны рэдактар – 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар – 2-16-94; аддзелы: аграрпрамысловы і інфармацыі – 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя – 2-23-55.

Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.
Газета выходзіць у сераду і суботу.

Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш
Тыраж 1528 экземпляраў
Друк афсетны
Падпісана ў друк 11. 07. 2000 г. 18.00
Заказ № 53

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.